Oplata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару **10 гр.**

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 29 (81) | Вільня, 8-га лістапада 1935 г. | Год 3-ці.

## Ці не зашмат оптымізму?

Лічачы справу беларусізацыі Царквы на нашых землях справай вельмі важнай у жыцьці беларускага народу, Рэдакцыя зьмяшчае на балонках газэты разважаньні паасобных праваслаўных беларусаў па гэтаму пытаньню, дзякуючы чаму само пытаньне будзе шырака і ўсебакова разгледжана, што ў рэзультаце дасьць магчымась выбраць належны шлях да яго зрэалізаваньня. *Рэдакцыя.*

У 28 нумары газэты „Родны Край" ад 29 кастрычніка гэтага году на першай бачыне зьмешчаны артыкул пад назовам „Лепей позна, чым ніколі", у якім аўтар, падпісаны літэрамі „С—ы", выказвае сваё задаваленьне з прычыны выданьня віленскім архіепіскапам Феодосіем загаду аб навучаньні Закону Божаму беларускіх дзяцей у іх роднай мове, а таксама і з пастановы Віленскае Кансісторыі аб неабходнасьці зарганізаваньня курсаў беларусазнаўства для законавучыцялёў і аб патрэбе пропаведзяў ў царквох віленскае епархіі ў беларускай мове.

Кожны з нас, беларусаў, добра разумее той настрой, які зьявіўся ў гр. „С" пры вестцы аб выданьні вышэй успомненых загадаў, бо-ж яны даюць праўную падставу і бацьком і законавучыцялём дамагацца навучаньня Закону Божаму і пропаведзяў у Царкве на беларускай мове.

Аднак у шмат каго з беларусаў, асабліва-ж беларускай моладзі, гэныя намеры нашых духоўных уладаў энтузіязму ня выклікалі, бо-ж, па маёй думцы, ад паперачных загадаў ды пастановаў яшчэ вельмі далёка да іх практычнага зрэалізаваньня. „Закон, что дышло, — куда поворотил, туда и вышло" казалі даўней спрытныя расейскія выканаўцы розных законаў, тлумачачы апошнія так, як калі было патрэбна. Вось-жа, мусіць, і пры рэалізацыі намераў нашых духоўных уладаў будуць здарацца такія самыя прыпадкі тлумачэньня розных пастановаў. У гэтым нас пераконвае і тое, што фактычна загад духоўных уладаў аб навучаньні Закону Божаму дзяцей у роднай ім мове („на материнском языкѣ") існаваў і раней,—але як-жа і дзе ён выконаваўся? Можна сьмела сказаць, што толькі адзінкі сярод законавучыцялёў імкнуліся хоць бы часткова яго выконваць, большасьць-жа законавучыцялёў чамусьці ня помніла аб ім і калі каму-небудзь з гэнай большасьці прыпаміналася аб загадзе, гаварылася аб тым, што ў беларусаў „материнским языком" зьяўляецца беларуская мова, законавучыцялі падымалі крык, што „это политика", што яны палітыкі ня хочуць, што і надалей будуць вучыць „на материнском языкѣ", інакш кажучы парасейску. Як бачым на паперы было усё ў парадку, а ў сапраўднасьці беларускія дзеці былі змушаны слухаць апавяданьні з сьвяшчэннай і царкоўнай гісторыі ў незразумелай для іх расейскай мове.

Вось-жа я ўважаю, што ў будучыні мы павінны высьцерагацца гэтакіх зьяваў і дзеля таго беларускае грамадзянства мусіць цікавіцца ўвесь час тым, як загад віленскага архіепіскапа, пацьверджаны нанова, будзе выконвацца на мясцох. Наколькі мне ведама, шмат нашага праваслаўнага духавенства яшчэ і дасюль трымаецца даўнейшых „истинно-русских", вярней прыдворна-царскіх пагляд аў і на наш народ і на ягоную мову, як на „испорченный русскій язык з примѣсью польских слов", і таму нічога дзіўнага, што карыстаньне гэнаю моваю яны лічаць як-бы абразаю для сваей павагі. Ясна, што беларускі народ яшчэ і перад вайной балюча адчуваў гэную пагарду да сябе, асабліва-ж з боку тых, каго ён фактычна карміў. Але пасьля вайны і тых падзеяў, якія вайна выклікала, пасьля ўзросту нацыянальнае сьвядомасьці ў нашым народзе, даўнейшыя адносіны да нашага народу і да ягонае мовы зьяўляюцца страшэнным перажыткам, якога даўжэй наш народ зьнесьці ня зможа. **Хто думае інакш, той загадзя павінен пашукаць сабе нейкае новае месца, бо ўжо хутка ў нас для такіх адзінак месца ня будзе.**

Нажаль гэная старая даваенная ідэолёгія, да таго-ж яшчэ і зусім аджыўшая, мае прыхільнікаў ня толькі сярод старэйшага гадамі духавенства, але нават і сярод маладшых сьвяшчэньнікаў. Пэўная частка віны за гэта спадае на сучасную Духоўную Сэмінарыю, якая не патрапіла зрабіць належнага ўплыву на сваіх гадунцоў, не патрапіла пазнаёміць іх з сучасным палажэньнем, бо-ж адным з найвялікшых недахопаў у сьветапаглядзе даўнейшых людзей зьяўляецца іх пераконаньне ў „сэзановасьці" зьяваў сучаснага жыцьця. Не пяршыня чуць аб „сэзановасьці", але шмат хто ўжо з „сэзановічаў" пераканаўся, ды яшчэ больш з часам пераканаецца ў сваіх памылках.

Пастанова Віленскай Кансісторыі аб пропаведзях на беларускай мове таксама, мусіць, застанецца на паперы, калі сьвядомая частка нашага грамадзянства не дапільнуе гэнае справы.

Здаралася, што некаторыя духоўныя і дасюль прабавалі гаварыць пропаведзі пабеларуску, пераважна на фэстах, дзе зьбіраецца шмат людзей, каб гэнае зборышча, прынясячае пэўныя матэр'яльныя карысьці духоўнікам, яшчэ павялічыць. Аднак сур'ёзна да справы пропаведзяў пабеларуску адносіліся толькі лічаныя адзінкі сярод нашага духавенства.

І калі-б нашыя духоўнікі рупіліся выключна аб інтэрэсах Царквы, якой яны служаць,—што і павінна быць,—а не паддаваліся нейкім іншым пабочным уплывам, якія толькі шкодзяць Царкве, то яны даўно пачалі-б гаварыць з нашым народам у зразумелай яму мове.

Я баюся, каб ня вышла з гэнымі пастановамі духоўных уладаў так, як было з вымовай і пісаньнем пэўных расейскіх слоў—„пишется так, а выговаривается иначе". Асабліва-ж гэта магчыма тады, калі і пісаўшыя гэныя пастановы разумеюць іх інакш, чымся яны напісаны...

Вось-жа, каб разьвеяць сумліў сьвядомай часткі нашага беларускага грамадзянства, духоўныя ўлады мусяць безадкладна пачаць рэалізаваньне сваіх намераў, бо ў праціўным прыпадку наш народ, які ўжо **страціў цярплівасьць, сам вырашыць гэныя балючыя пытаньні**, як гэта было з спробай увядзеньня ў царкоўнае жыцьцё новага календарнага стылю.

Голас пэўнай невялікай часткі мяшчанства ў нашых гарадох ня можа мець аніякага значэньня ў гэтай справе, бо-ж гэная частка мяшчанства, хоць „сэзонова" і лічыць сябе беларусамі, у сапраўднасьці зьяўляецца не мясцовым, а аднекуль прыбыўшымся да нас элемэнтам. Кожны-ж праўдзівы беларус інакш глядзець на справу беларусізацыі Царквы, як глядзім мы, беларуская моладзь, ня можа і ня будзе. **Аб гэтым духоўныя ўлады павінны заўсёды помніць і не спадзявацца на тое, што паперачнымі загадамі ды пастановамі змогуць задаволіць нашыя слушныя дамаганьні.**

*Малады.*

## З правінцыі.

### З ВАЛОЖЫНА.

**Адно пішуць, а другое робяць.**

Няраз на старонках „Роднага Краю" парушаліся балячкі нашае Праваслаўнае Царквы і як відаць з апошніх артыкулаў, справа ўнармаваньня царкоўнага жыцьця быццам скранулася з мёртвага пункту.

Але праўду пісалі ў адным з артыкулаў, што ня ўсё так ёсьць у сапраўднасьці, як яно прадстаўляецца на паперы.

Так напрыклад, чыталі мы, што архіепіскап Феодосі загадаў і пропаведзі гаварыць і Закон Божы выкладаць для Беларусаў—пабеларуску, а між іншым даходзяць да нас чуткі, што той жа архіепіскап Феодосі маніцца быццам прыслаць да нас у Валожын, на месца памёршага сьвяшчэньніка Далманава, нейкага нова-высьвячанага а. Аполлона Смаржэўскага—па паходжаньні украінца. Ці-ж гэта можа быць праўдай? Мы няведаем гэтага чалавека і ніякіх закідаў яму ставіць ня хочам, бо можа ён найлепшы і чалавек і сьвяшчэньнік, але калі ён не беларус, то шчыра скажам, што яму месца ў нас ня будзе. Наш прыход вялікі (7000 чалавек) і выключна беларускі. Беларускі не па назову, а ў сапраўднасьці па сведамасьці насельніцтва і мы дамагаемся сьвяшчэньніка беларуса.

Ёсьць, напрыклад, заслужаны сьвяшчэньнік, наш зямляк, маладэчанскі Благачынны а. Аляксей Маеўскі, якому належалася-б гэтае месца. Замест гэтага, ці нейкага іншага беларуса, нам прысылаюць усякіх чужынцаў. Прыслалі напр., часова што праўда, нейкага студэнта Дзем яновіча, які пабеларуску ці то ня можа, ці проста ня хоча гаварыць з народам. Нам такія бацюшкі не патрэбны. А тое што Дземяновіч сваяк архімандрыта Варшаўскага Феофана, хіба-ж не павінна заважаць. Тут не асабістая справа таго ці іншага сьвяшчэньніка, а справа народна-царкоўная — Божая, і нашая іерархія аб гэтым не павінна забываць, калі сапраўды жадае дабра Праваслаўнай Царкве.

Калі дайшоўшыя да нас чуткі аб назначэньні ў нас ізноў не беларуса праўдзівыя, то як-жа будуць выглядаць загады нашага архіерэя? Адно пішуць — другое робяць! Прыклад для верных ня зусім добры.

*Валожынец.*

## „Сьвяточная“ і „будняя“ мова.

М. Тургелі віленска-троцкага п.

Здаўна так вядзецца і ня толькі сярод нас, беларусаў, але і іншых народаў, што людзі ў сьвята лепш убіраюцца, дзеля чаго і маюць сьвяточную вопратку, а на іншыя дні буднічную. Аднак, мусіць, няма такога народу, які-б меў дзьве мовы—сьвяточную і буднюю. А вось у нас гэнае зьявішча раней здаралася. Дзеля таго, што ў нас, беларусаў, было вельмі мала сваёй інтэлігенцыі, выходзіла так, што пабеларуску гаварылі толькі сяляне і работнікі, „простыя“ людзі, чаму і самую нашую мову чужынцы, апынуўшыяся ў нас, пачалі зваць „простаю“ моваю і гэны пагляд пашыралі і сярод нас. Цёмныя ж, неасьвечаныя адзінкі нашага народу паверылі, што гэта так ёсьць, паверылі ў тое, што нашая, беларуская мова „простая“, як бы тая будняя вопратка, якой можна карыстацца толькі ў буднія дні, толькі ў гутарцы між сабой, а з іншымі людзьмі трэба гаварыць неяк інакш, бо-ж з простай мовай неяк сорамна паказвацца ў сьвет. Зразумела, што чужой мовай нашыя людзі ня ўмелі добра гаварыць, няміласэрна яе калечылі, што выклікала і сьмех і адначасна жаласьць да тых, хто хацеў гаварыць „пасьвяточнаму“. Аднак з часам гэткае зьявішча траплялася ўсё радзей і радзей. Нават мала сьвядомыя адзінкі сярод нас урэшце зразумелі, што нашая мова, „простая“, як яе даўней звалі, у сапраўднасьці такая-ж сьвяточная, як і ўсе іншыя мовы на сьвеце, што гэнай мовай гавораць ня толькі сяляне, але і нашая беларуская інтэлігенцыя, людзі з асьветай, якія добра ўмеюць і іншыя мовы, аднак ня стыдаюцца гаварыць у сваёй, бо яна для іх родная, даражэйшая за ўсе іншыя. Разумныя чужыя людзі ніколі не сьмяюцца з таго, што мы гаворым сваёй моваю, сьмяяцца з гэнага могуць толькі неразважныя ды неразьвітыя людзі. Ізноў-жа кожны мае права сьмяяцца з нас тады, калі мы будзем калечыць чужую мову. Дык вопратка можа быць і сьвяточная і будняя, а мова ў нас ёсьць толькі адна як на буднія дні, так і на сьвята. Хто гэтага не разумее, значыць той цёмны чалавек, якога ніхто паважаць ня будзе.

*Бывалы.*

**21 лістапада с. г. а 16.45—17 гадз. адбудзецца радыё-канцэрт беларускага хору ў Вільні.**

**Праграму падамо ў наступным нумары.**

## Рашучая праграма ўраду.

Выступленьне на пленуме Сойму прэм'ер-міністра Касьцялкоўскага, а ў камісіі прамова віцэ-прэм'ера Квяткоўскага зарысавала шырокую і рашучую праграму польскага ўраду, якая пайдзе па лініі *палепшаньня фінансаў дзяржавы.*

Урад імкнецца скончыць з палітыкай дэфіцытных бюджэтаў, пічыра і ясна прызнае труднасьць мамэнту, як і труднасьць рэалізацыі свае праграмы, ды заклікае ўсё грамадзянства да суцрацоўніцтва ў кірунку перамаганьня ўсіх гэтых труднасьцяў.

У „Ilustr. Kurjer Codziennym“ знаходзім абшырны артыкул гр-на Ф. З., які апісвае конкрэтныя мерапрыемствы ўраду, замераныя дзеля папраўленьня дзяржаўных фінансаў. — Сытуацыя зьяўляецца вельмі труднай,— піша гр-н Ф. З, — дык і трэба згарнуць усе сілы грамадзянства ў барацьбе за лепшае заўтра, а каб здабыць гэтае заўтра—трэба солідарнае натугі і цяжкіх ахвяраў усіх слаёў.

Гаспадарчая праграма цяперашняга ўраду якраз і ёсьць праграмаю з'арганізаваньня і разлажэньня гэтых ахвяраў на ўсе слаі грамадзянства з тэндэнцыяй магчымага выраўнаньня іх.

Урад правільна на першы плян свае праграмы высоўвае акцыю папраўленьня фінансаў і часова абмяжоўвае свае задачы гэтаю акцыяй. Бо запраўды трудна думаць аб якім-небудзь гаспадарчым наступе, калі фронт не ўмацаваны, загрожаны і аслаблены вялікімі і растучымі дэфіцытамі...

Да якіх-жа ахвяраў усе слаі грамадзянства будуць пацягнены ў барацьбе з дэфіцытам?.

*Публічныя працаўнікі* ў самым шырокім значэньні, гэта знач. працаўнікі дзяржавы, тэрыторыяльнага і гаспадарчага самаўраду, дзяржаўных прадпрыемстваў, прымусовых страхаваньняў і г. д. будуць пацягнены да абніжэньня пэнсіяў у разьмеры 7—20 процантаў пры прогрэсыўнай скалі (хоць інакш працаўнікі дзяржаўныя, чымся рэшта працаўнікоў).

*Прыватныя працаўнікі* будуць пацягнены да ахвяраў новым крызысным дадаткам да падатку ад пэнсіяў пры скалі вельмі сільна прогрэсыўнай угару — ды апрача таго меншыя, вольныя дасюль ад падатку, пэнсіі будуць падлягаць ападаткаваньню цераз паніжэньне пражыўнога мінімуму (дасюль „падаходны“ падатак плаціў працаўнік, які зарабляў ня менш як 2.500 злотых у год, а ў далейшым ападаткованы мае быць і той, які зарабляе ня менш, як 1.500 злоных у год).

*Эмэрыты* пацягнены будуць да ахвяраў шляхам рэвізіі публічных эмэрытураў.

*Уласьнікі рэальнасьцяў* (невядома ці таксама і новых дамоў?) панясуць ахвяры праз абніжэньне кватэрнай платы на 15 процантаў у адношаньні да малых кватэраў, займаных дзяржаўнымі працаўнікамі і сьветам працы.

*Прамысловасьць і гандаль, рамясло* і г. д. панясуць ахвяры цераз рэформу падатку ад гэтак званых фундаваных даходаў (і тут пражыўны мінімум будзе абніжаны з 1500 да 1200 злотых).

*Малы гандаль* панясе дадатковыя ахвяры ў акцыі аддаўжаньня вураднікаў.

Выражаецца перакананьне,што і прамысловыя картэлі панясуць ахвяры ў акцыі абніжэньня прамысловых цэнаў і перш за ўсё на тыя прадметы, якія маюць асноўнае значэньне для гарадзкога жыхарства, як вугаль, цукер, газа, што адначасна адбудзецца рэвізія манапольных цэнаў (у межах незьмяншаньня даходнасьці манаполяў, але на аснове прынцыпу: „малы зыск—вялікі абарот“), а таксама шырока абдуманая рэвізія чугуначных тарыфаў, як пасажырскіх (шляхам скасаваньня выняткаў і агульнага абніжэньня тарыфаў), так і таварных.

*Гарады* панясуць ахвяры ў розных формах. Паніжэньне кватэрнае платы за малыя кватэры, каторыя складаюць ³/₄ агулу кватэраў у Польшчы, адаб'ецца на гарадзкіх паступленьнях тым сільней, што адначасна адбудзецца скасаваньне кватэрнага падатку за малыя кватэры. Апрача гэтага будзе дзейнічаць зьменшаньне цэнаў на газ і электрычнасьць, якія ўжо абцяжаны дзяржаўным падаткам. Таксама ўдарыць па гарадзкіх бюджэтах адабраньне ад самаўрадаў аплатаў за права ўезду ў горад ды рыначных аплатаў.

Каб зроўнаважыць гэтыя страты, урад прадбачыць сільную рэдукцыю самаўрадовых бюджэтаў, праўда моцна затрудненую з прычыны фактычнае рэдукцыі пэнсіяў самаўрадовых працаўнікоў, якая пайдзе цяпер на карысьць дзяржаўнага скарбу. Урад прадбачыць унармаваньне ў цэласьці службовых адносін самаўрадовых працаўнікоў, а таксама рэарганізацыю тэрыторыяльнага самаўраду. Інакш кажучы, трэба лічыцца,—незалежна ад абцяжараньня новым падаткам,—з асобнаю рэдукцыяй пэнсіяў самаўрадовых працаўнікоў, эмэрытураў ды іншых вынаграджэньняў, з далейшым праводжаньнем акцыі аддаўжаньня гарадоў, з ліквідацыяй дэфіцытных і няздольных да жыцьця самаўрадовых адзінак, нарэшце з рэдукцыяй самаўрадовых задачаў, каторыя ў цяперашні мамэнт зьяўляюцца нерэальнымі.

Як бачым, круг ахвяраў ахапляе ўсіх, але з... „малым“ выняткам, г. знач. *земляробаў,* якія складаюць больш як ²/₃ жыхароў дзяржавы.

*Земляробы атрымліваюць новыя ільготы ў фдрме скасаваньня аплатаў за ўезд у горад і некаторых тарговых аплатаў, у дарожных аплатах ды ў самаўрадовым падатку.*

Таксама і крэдытары дзяржавы не нясуць ніякае ахвяры, бо ўрад не прадбачвае ніякае конвэрсійнае акцыі ў якой-бы ні было форме на дзялянцы дзяржаўнага аддоўжаньня, на дзялянцы аблігацыяў, рэнтаў, гарантыяў, закладных лістоў і г. д., хоць усе дзяржавы ў той ці іншай форме правялі вялікія конвэрсійныя апэрацыі, абніжаючы цяжары скарбовых даўгоў.

Праграма,прадстаўленая ў абедзьвюх праграмных прамовах прэ'мера і віцэ-прэм'ера, зьяўляецца цяжкай і цьвёрдай, але мае той добры бок, што яна рэальная.

## Крызыс Лігі Народаў.

Вайна ў Афрыцы сабе ідзе, а Ліга Народаў выносіць рэзалюцыі. Яе пастанова аб санкцыях проці Італіі аказваецца простай і яснай на паперы, можа мець вялікае, сказаў-бы той, моральнае значэньне. Правядзеньне ў жыцьцё гэтых санкцыяў натыкаецца на вельмі паважныя труднасьці: санкцыі фінансавыя і эканамічныя ўдараюць не па адной Італіі. Пра санкцыі мілітарныя (ваенныя) няма чаго і казаць — яны проста пагражалі-б перанясеньнем вайны ў Эўропу.

А тымчасам абодвыя роды санкцыяў тэорэтычна прадбачаны былі статутам Лігі проці нападаючай стараны.

Што-ж перашкаджае рашуча ўжыць хоць-бы эканамічна-фінансавыя санкцыі проці Італіі?

Ужо 20-га кастрычніка газэты выясьнілі, што Падкамісія Лігі Народаў улажыла сьпісак прадметаў, увоз якіх у Італію мае быць забаронены з усіх краін і дзяржаваў, якія належаць да Лігі Народаў. На першым месцы гэтага сьпіску аказаліся розныя мэталы. Ня даўшы давозу гэтых ваенных матар'ялаў у Італію, проектавалася змусіць яе да скарочаньня або да поўнага спыненьня вайны.

А тут выходзіць так, што рэха гэткіх санкцыяў адчуваецца ў іншым месцы яшчэ мацней, як у самой Італіі.

У уэльскіх вуглявых капальнях на паўдні Англіі, што зьяўляюцца адным з фундамантаў гаспадарчай яе магутнасьці і багацьця ангельскіх магнатаў, могуць пазбавіцца працы і магчы-

# Панскі дар.

I.

Ведама, што мужыку зямля, як рыбе вада, патрэбна.

А навокал двара Цёмнага-Бору, у Ігуменшчыне, нямала вёсак і вёсачак насялілася.

Буслы кожную вясну акуратна прылятэлі, а новыя жыхары ў сялянскіх хатках таксама не марудзілі прыбываць. Прыбыло іх шмат ад часу скасаваньня паншчыны да вялікае рэвалюцыі.

У Цёмным-Бары, на ўсіх яго трох тысячах дзесяцін, не адзін ужо год Лейзар Арандар гаспадарыў.

Ніхто з сялян нават і не дагадваўся, што гэты Лейзар сам уласьнікам Цёмнага-Бору быў. А дзеля таго, што пры царскай уладзе жыдом у Ігуменшчыне забаронена было зямлю набываць, дык Лейзар купіў у свой час гэты немаленечкі двор на чужое, зусім хрысьціянскае, імя.

Фармальным уласьнікам (так сабе на паперы) лічыўся тут спрытны менскі дзяк Хабаркоўскі, а Лейзар нібыто ў яго Цёмны-Бор арэндаваў.

Сялянам здавалася, што Хабаркоўскі ня дзяк, а запраўды пан ды яшчэ які! Немалы мусі абшарнік, калі ў свой двор нават носа ні разу не паказаў?

Да рэвалюцыі ўсё ішло гладка: Лейзар у двары гаспадарыў, Хабаркоўскі палажыў у кішэнь немалую суму за тое, што імя сваё жыду падставіў, цёмнаборская зямля радзіць не ленавалася, а ваколічныя вёскі з зайздрасьцю паглядалі на яе ўраджайнасьць.

Шмат markнага войска Цёмны-Бор за вайну бачыў. Розныя госьці тут гасьцілі. Аднак стаяў двор сабе на сваім месцы. Вайна была недзе пад Менскам, да Ігуменшчыны нават гук яе не далятаў.

Гучна зрабілася ўжо ў рэвалюцыю. Вясною 1917 году, як мурашкі, людзі па зямлі цёмнаборскай папаўзьлі. Кожны дзядзька плуг свой у яе запусьціць стараўся. Усё было засеяна і засаджана; хапалі, хто што мог. Некаторыя мужыкі лесу панскага панацягалі, хаты новыя сабе стаўляць пачалі.

Калі Лейзар прабаваў пратэставаць, дык няраз чуў просты адказ:

— А ты чаго шкадуеш? Хіба твае? Гэта-ж усё панскае было. А цяпер, бачыш, няма паноў, усе роўныя, таварышы! Ня бойся, гнязда твайго не забярэм дый гароду з садам валоку якую пакінем—ня згінеш і ты з сваімі жыдзянятамі!

Часаў патыліцу Лейзар, тудысюды кідаўся, усюды чуў той самы грозны кліч:

— Зямля тым, хто сам на ёй працуе!

А тут яшчэ гэта слава яго арэндатарская ў мазгі сялянскія глыбока залезла. Ня ўласьнік, значыцца, Лейзар — зямля жыду нашто? Арэндатар дый годзі! У пана зямлю арэндуе. Сам-жа ж гэткую чутку пусьціў, як жыць у Цёмны-Бор пераехаў. Нават і прозьвішчам Лейзаравым ніхто з сялян ня цікавіўся. Так проста і празвалі яго—Лейзар Арандар.

— І што-ж гэта значыць? — няраз ужо зьвяртаўся Лейзар з пытаньнем да свае Рухлі, — гэтых вось самых мужыкоў штогоду наймаў я абрабляць гэтую самую зямлю для мяне, а цяпер яны яе кожны для сябе самога плугамі рые? Трэба ехаць у Менск, знайсьці трэба Хабаркоўскага, ён чалавек спрытны: прыедзе, скажа што ён гаспадар Цёмнага-Бору, можа хоць крыху сярод белага дня мяне рабаваць мужыкі пасаромяцца?

— Што тут можа парадзіць твой Хабаркоўскі? Ізноў скажа, давай грошы!... Лепш да Юдэля пішы ў Амэрыку, уцякаць трэба, пакуль жывыя, — радзіла Лейзару жонка.

— Амэрыка? *які* цяпер Амэрыка, калі ўсюды вайна?—адцінаў Лейзар сваёй Рухлі ды так нікуды й ня ехаў, ні ў Менск—да Хабаркоўскага па раду, ні ў Чыкаго — да брата Юдэля, на новае жыцьцё.

Мінуў год. Ігуменшчыну занялі немцы. У Цёмным-Бары затрымаўся цэлы эскадрон нямецкіх гусараў з вахмайстрам і обэр-лейтэнантам на чале.

Праз які месяц ці паўтара вясна мела быць. А тут немцы кажуць, што яны прыйшлі не заваёўваць чужы край, а толькі парадак у ім завясьці, нарушаную ўласнасьць для кожнага ўзнавіць. А як яе ўзнавіць для Лейзара, калі ён—ня ўласьнік у Цёмным-Бары, ён так сабе: Лейзар Арандар?

Чым бліжэй надыходзіла вясна, тым трывожней рабілася ў

масьці існаваньня цэлых 175 тысяч вуглякопаў, таму што 40% дабыванага імі вугля ідзе ў Італію.

Аблічвае свае магчымыя страты і Румынія ў выпадку, калі забаронены будзе ўвоз у Італію яе нэфты, якое ў 1933 годзе вывезена было ў Італію з Румыніі 903.000 тоннаў, а ў 1934 годзе — 976.000 тоннаў.

Больш-менш падобныя страты аблічаюць і ўсе іншыя дзяржавы — сябры Лігі Народаў.

Ізноў-жа аказваецца, што санкцыі эканамічныя вельмі лёгка могуць пацягнуць за сабою санкцыі мілітарныя: забарона ўвозу таго ці іншага сыр'я ў Італію, патрэбнага ёй дзеля вайны—ня кажучы ўжо пра зброю і амуніцыю—аўтаматычна выкліча да жыцьця контрабанду. А ваенная контрабанда цягне за сабою прасьледаваньне яе. Контрабандыстых на моры прасьледаваць могуць толькі ваенныя караблі. І лёгка ўявіць сабе гэткую сытуацыю: нехта вязе караблём забароненыя прадметы ў Італію. Контрабанда. Ангельскі карабель затрымлівае яе, але можа над'ехаць на падмогу контрабандзе італьянскі ваенны карабель. Ці не загавораць тут адразу гарматы?

54 дзяржавы належаць да Лігі Народаў. Як дасягнуць аднагалоснасьці іх у гэткай скомплікованай справе, як сьпляценьне эканамічных інтарэсаў усяго сьвету?

І Ліга Народаў з зваім статутам пападае ў паласу крызысу, калі тэорыя яе статуту мае перайсьці ў горкую практыку.

Англія, верная сваёй традыцыйнай тактыцы, адрозьніваць у вайне народы ад іх урадаў, — Напалеона I ад французаў, Вільгэльма II ад немцаў, — думала самым толькі абвешчаньнем санкцыяў адрозьніць і Муссоліні ад італьянцаў, дзейнічаць на дыктатара псыхолёгічна.

Францыя выказала куды меншую гарачку ў справе санкцыяў проці Італіі. На ангельскае пытаньне аб супрацоўніцтве, ў выпадку патрэбы, францускага флёту з брытанскім, 18-га кастрычніка францускі міністар заграничных справаў Ляваль адказаў хітра: Францыя гатова супрацоўнічаць з Англіяй і іншымі дзяржавамі ў сэнсе ўжываньня *гаспадарчых* ды *фінансавых* санкцыяў, а ў межах, прадбачаных арт. 16 § 3 пакту (ўзаемная помач сяброў Лігі Народаў проці дзяржавы, прызнанай за нападчыка) Францыя таксама гатова споўніць свае, *колектыўна* пастаноўленыя, абавязкі. Тлумачачы на болей зразумелую (недыплёматычную) мову, гэта азначае, што Францыя лічыць рашэньне Лігі Народаў, нявыйшаўшым дасюль за межы ўстанаўленьня гаспадарчых ды фінансавых санкцыяў проці Італіі.

Дык выходзіць, што калі Велікабрытанія пачала самастойныя мілітарныя шагі ў форме концэнтрацыі свайго флёту ў Сяродземным моры, то дзейнічала яна не паводле мандату ад Лігі Нар., а па сваёй уласнай ініцыятыве і на сваю адказнасьць. Іначай кажучы, каб мець запэўненай аўтаматычную падмогу з боку Францыі, Велікабрытанія павінна атрымаць раней ад Лігі Народаў аднагалосную пастанову аб мілітарных санкцыях.

Ясны на паперы параграф аб аўтаматычнай узаемнай помачы проці нападчыка атрымаў, як бачым, вельмі цікавае францускае тлумачэньне. Здаецца таксама ясна, што ніякай вайне гэткае тлумачэньне не перашкаджае.

Усё гэта выглядае на поўны крызыс самое Лігі Народаў, як інстытуцыі, заснаванай, пасьля сусьветнай вайны, з мэтаю не дапушчаць да вайны ў будучыні, або тушыць яе, калі яна дзе загарыцца.

## Францыя і яе войска

Францыя ў сучасны мамэнт адыгрывае вельмі важную ролю ў міжнародным жыцьці. Лад у ёй рэспубліканскі з прэзыдэнтам на чале.

Францыя ў Эўропе займае абшар 550.761 квадратных кілёмэтраў (разам з востравам Корсыкай) з насельніцтвам 43 мільёны чалавек.

Калёніі, належачыя да Францыі, перавышаюць самую мэтраполію ў 27 разоў і займаюць абшар чатырнаццаць мільёнаў шэсьцьсот пяцьдзесят адну тысячу сто трыццаць сем квадр. кілёмэтраў з насельніцтвам звыш 65 мільёнаў чалавек. Найбольш калёніяў Францыя мае ў *Афрыцы*—трынаццаць мільёнаў семсот тысяч квадратных кілёмэтраў з насельніцтвам 37 мільёнаў чалавек (Альжыр, Туніс, Мароко, Сахара, Заходняя Афрыка, Роўніковая Афрыка. Мадагаскар).

У *Азіі* францускія калёніі займаюць абшар 842.269 квадр. кілёмэтраў з насельніцтвам 25 мільёнаў чалавек (Індо-Кітай, частка Індыі, Сырыя).

У *цэнтральнай* і *паўдзённай Амэрыцы* францускія калёніі займаюць 85.900 квадр. кілёмэтраў з насельніцтвам 600 тысяч чалавек (Антыльскія астравы, Гвідна) і ў *Акеяніі*—22.336 квадр. кілёмэтраў з насельніцтвам 100 тысяч чалавек (Новая Каледонія, Таіці).

Сталіца Францыі—Парыж з насельніцтвам каля 6-ці мільёнаў чалавек.

Войска ў Францыі пабудована на сыстэме „уваружанага народу" з агульнай вайсковай павіннасьцяй. Срок службы — 12 месяцаў, для туземцаў (жыхароў калёніяў)— 3 гады. Войска складаецца з 27.300 афіцароў, 106 тысяч. унцер-афіцароў (падафіцароў), 240 тысяч. францускіх салдатаў, 180 тысяч. туземных салдатаў (95 тысяч. арабаў і 85 тысяч каляровых) і 16 тысяч. чужаземных легіёнаў. Разам—569 тысяч. войска, з якіх у калёніях знаходзіцца 255 тысячаў.

У самай Францыі знаходзіцца 26 пяхотных дывізіяў (5 туземных) па 3 палкі кожная (паграінчная і туземная—па 4 палкі), 5 кавалерыйскіх дывізіяў (па 4 палкі) і 3 паветраныя дывізіі.

Усяго Францыя мае 444 пяхотных і 21 танкавых батальёнаў (па 45 танкаў у кожным), 181 эскадрон, 670 батарэяў (257 цяжкіх) і 180 паветраных эскадрыляў з 3600 самалётамі. З агульнай колькасьці ў калёніях знаходзіцца 187 батальёнаў пяхоты, 75 эскадронаў, 105 батарэяў (28 цяжкіх), 3 танкавыя батальёны і 24 паветраныя эскадрылі з 240 самалётамі.

Пры мабілізацыі, войска павялічваецца да 50-цёх пяхотных дывізіяў, прычым агульны лік войска дасягае 7-мёх мільёнаў.

Вайсковы флёт складаецца з 9-цёх лінейных караблёў, 19 крэйсераў, 91 мінаносца, 134 падводных лодак і 2-х авіёматак. Флёт мае 4110 афіцароў і 57.500 матросаў.

Войска Францыі за апошнія гады трохі зменшылася колькасна, затое палепшылася якасна, асабліва з тэхнічнага боку. Ізноў-жа Францыя, як і іншыя большыя дзяржавы, зьвярнула асаблівую ўвагу на разбудову паветранага флёту, які па думцы вайсковых спэцыялістаў у будучых войнах адыграе рашучую ролю.

*К.*

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

*Беларуская песьня.* — 27-га кастрычніка Краязнаўчы Гурток Праваслаўнае Духоўнае Сэмінарыі зладіў у Салі Гімназіі імя Жыгімонта Аўгуста ў Вільні вечар, прысьвечаны народнай песьні.

Пасьля рэфэрату аб народнай песьні наагул, які прачытаў вуч. VIII кл. Малашка, быў прачытаны спэцыяльны рэфэрат „Аб беларускай народнай песьні" гр. Цытовічам. Хор Сэмінарыі вельмі добра прапяяў цэлы рад беларускіх песьняў (Перапёлка" „Ці сьвет, ці сьвітае і інш). У салі было каля 300 асоб, пераважна моладзі розных нацыянальнасьцяў.

— *Адзначэньне навуковае працы беларуса.* Гр. Мгр. Скурат, беларус, атрымаў грашовую нагараду за навуковую працу, напісаную пафранцуску. Праца была адзначана і ацэнена, як найлепшая сярод іншых працаў, прысланых на конкурс.

— Як падае польская газэта „Попросту" ў № 6, на адным з паседжаньняў Беларускага Нацыянальнага Камітэту пастаноўлена прыступіць да выданьня бюлетэню ў польскай мове. Бюлетэнь будзе інфармаваць усё польскае грамадзянства аб беларускім культурным жыцьці.

— Тая-ж газэта падае, што саюз беларускіх савецкіх мастакоў атрымаў запросіны прыняць ўчасьце ў міжнароднай выстаўцы мастацтва, якая адбудзецца у 1937 ў Парыжы.

— Выйшаў з друку № 8 „Пралесак" беларускай дзіцячай часопісі. Трэба адзначыць, што гэты нумар зусім амаль не надаецца для дзяцей. Разам з наіўнымі навучэньнямі зьмешчаны весткі з Абісыніі і т. д. Цікава, ці зразумее дзіцё напісанае, калі яно ня ведае, дзе знаходзіцца Абісынія, Філіпіны, што такое клімат, архіпэляг і т. д. Ужо ўсім хіба ведама, што сучасная пэдагогіка не прызнае добрай мэтоду ўмаўляньня псыхічных станаў („Будзьце паслухмяныя! Будзьце добрыя") — рэдакцыя, аднак „Пралесак", відаць, вельмі консэрватыўная.

Пара скончыць з гэтым і зрабіць „Пралескі" сапраўды цікавай часопісьсю, якой была, напр., хоцьбы „Заранка". Нельга дзяцей трактаваць, як дарослых, або як зусім наіўных. Трэба перадусім пазнаць дзіця і знайсьці з ім супольную мову.

— *Развал „Калосься"*. Як даведываемся, у рэдакцыйнай калегіі літэратурна-навуковай часопісі ў апошнім часе паўсталі паважныя непаразуменьні, якія давялі да выступленьня з рэд. калегіі цэлае групы маладых супрацоўнікаў „Калосьцяў". У „Калосьях" засталіся адны хадэкі.

— 1-га лістапада вучні Віленскай Беларускай Гімназіі зьведалі магілы беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў Ядвігіна Ш. і К. Сваяка, пахаваных на могілках Роса.

Зьведаньне магілаў арганізаваў Літэратурна-Гістарычны Гурток.

— Увечары 2-га лістапада, у задушкі, зьведала беларускія магілы на Росе Беларуская Студэнская моладзь. Над магіламы былі прапяяны хаўтурныя песьні.

— Паводле статыстычных дадзеных, абвешчаных на інаўгурацыі акадэмічнага году Віленскага Унівэрсытэту, у мінулым школьным годзе было ў Унівэрсытэце звыш 100 беларусаў,

## Праэкт абніжэньня чыгуначнага тарыфу.

Згодна з праграмаю новага ўраду, польск. чыгуначныя ўлады рыхтуюцца да перагляду пасажырскага і таварнага тарыфу. Працы над новым тарыфам хутка будуць скончаны. Пасьля ўвядзеньня ў жыцьцё новага тарыфу асабліва патанеюць малыя і сярэднія праезды (ня больш 200 кілёмэтраў).

---

Лейзаравым сэрцы. Там-сям ужо чуваць было, што ваколічныя абшарнікі не на жарты ўзнаўляць правы свае пачалі: не аднаму ўжо дзядзьку, за кражу лесу, ў матню ўсыпалі.

Лейзар Арандар не рашаўся на гэткія меры: „няхай іх халера!" — думаў ён, — „яшчэ затаўкуць мужыкі грамадою, або спаляць з усімі бэбахамі"...

Як толькі зьлез сьнег з поля, паехаў Лейзар у Менск, знайшоў Хабаркоўскага дый кажа яму:

— Уй, пане, пане! Як тут жыць? Гэткі інтэрас мы з вамі зрабілі, а тут на табе—рэвалюцыя гэтая, каб яе вочы маіх дзяцей ня бачылі!

— А табе што рэвалюцыя? — адказвае Хабаркоўскі, — што? ці табе ад яе нават і зімою ў двары сядзець горача?

— Уй, горача! ўй страшна! — падхапляе Лейзар,—*сваіх* мужыкоў нельга пазнаць. І што з іх парабілася? Зладзеі, грабежнікі! Уй!...

Дый пачаў Лейзар прасіць Хабаркоўскага, каб паказаўся ён у Цёмны-Бор, як толькі арба пачнецца, каб даказаў сялянам, што толькі ён—Хабаркоўскі, фармальны ўласьнік Цёмнага Бору, — там гаспадар...

— Гэта можна зрабіць! — ухапіўся за новы інтэрас Хабаркоўскі,—толькі, ведаеш што, Лейзар? Каштаваць табе гэта крыху будзе ізноў. Я маю гэткі плян—зрабіць у тваім двары, хітра кажучы, такую зямельную рэформу, што ты напэўна ніякіх грошай за гэта пасьля не пашкадуеш.

— Ну, які плян? які ў вас плян?—спытаўся Лейзар, — плян мой і ў мяне ляжыць.

— Вось табе маеш!—наставіўся Хабаркоўскі,— жыд ты ня дурны, а простае рэчы не разумееш. Мой плян ня той, на якім двор твой азначаны, мой плян вось дзе сядзіць! — парнуў сабе пальцам у лоб Хабаркоўскі.

— Ну, і што там сядзіць? — зацікавіўся жыд.

— Ня твой інтэрас, Лейзар, разумееш? Я прыеду ў Цёмны-Бор, калі трэба, і за два ці тры дні найлепшы парадак навяду. Давай зараз паўтысячы марак, а тысячу дасі тады, як усё будзе зроблена...

— Паўтары тысячы?! — зьдзівіўся жыд, – за добрую раду гэткія грошы? Скуль я іх вазьму?

— З Цёмнага-Бору вазьмеш, толькі слухай,—супакоіў яго Хабаркоўскі,—а тысячы? што цяпер тысячы? Дый гэта-ж маркі, а ня рублі!

— Рублі ці маркі, — пасмакаваў Лейзар,— а грошы ўсё-ж такі немалыя, дый за што?

— Пасьля пабачым за што, — кажа Хабаркоўскі,—а цяпер едзь сабе да хаты ды праз дурнейшых парабкоў пусьці навокал сябе чутку, быццам на пачатку вясны я маюся прыехаць у Цёмны-Бор, каб падарыць яго сялянам...

— Падарыць? мой двор ды падарыць?—затрапястаўся Лейзар.

— Ня бойся,—кажа пан Хабаркоўскі, — падару так, што ён у цябе (ну, нібыто ў мяне) і застанецца. А тымчасам, кажаш, вахмайстар і гусарскі лейтэнант нейкі там у цябе кватэруе. Вось каля іх ты лагодненьна пахадзі: зрабі так, каб яны загадалі сваім салдатам высьцебаць пару дзядзькоў, калі тыя вясною з плугамі на поле тваё вылезуць, або лесу накрадуць...

— Уй, што вы радзіце? — зжахнуўся Лейзар, — вы хочаце, каб я галавою сваёю беднаю налажыў, пакуль вы прыедзеце?

— Ніводзін волас больш на галаве тваёй не пасівее, — запэўніў Лейзара Хабаркоўскі... Толькі вось што? Ці ходзь адзін з „тваіх" немцаў панашаму разумее?

— А нічагусенька! -- адказаў Лейзар.

— Вось гэта добра! — кажа Хабаркоўскі, — калі дадуць мужыком бярозавай кашы немцы, тады я і прыеду зямлю дарыць. Цябе аблаю, як сабаку, перад усім народам, за тое, што пазваляеш немцам чэсны народ за зямлю „маю" розгамі частаваць; немцам скажы, што і для іх словаў моцных не пашкадую, хай ня гневаюцца, бо пасьля і для іх спакайней будзе... Вось, коратка кажучы, ледзь ня ўвесь мой плян. Як толькі трэ' будзе мне прыехаць, дык тэлеграму дай.

Доўга меркаваў Лейзар і так і гэтак, але нарэшце зрабіў-такі ўгавор з Хабаркоўскім.

*Звончык.*

(Канец будзе).

## Беларускі календар — у беларускую хату!

— Ужо выйшаў з друку і прадаецца ў беларускіх кнігарнях Беларускі Адрыўны Календар на 1936 г. Цана календара меншая, чым у прошлым годзе. *Каштуе Календар усяго 50 гр.*, а хто выпісывае больш, цана яшчэ меншая. Дакладная азначэньне цаны пры выпісываньні большага ліку календароў знойдзе чытач у абвестцы. Паніжэньне цаны зрабіла календар даступным нават зусім незаможным сялянам. Вёска нашая ўжо пераважна знаёмая з адрыўнымі беларускімі календарамі і масава закупіць іх на 1936 год. Часта аднак пры куплі календара плаціцца няслушная цана, дзякуючы зьдзірству розных прадаўцоў. Бывалі выпадкі, што сяляне плацілі ў мястэчках па 1 зл. 30 гр. за беларускі календар, бо ня ведалі сапраўднай цаны. Расейскія-ж або польскія календары, якімі завалены бывае рынак, наша сялянства мала купляе, бо гэтыя календары незразумелыя і неадпаведныя зьместам. Вось-жа *кожны сьвядомы беларус* у вёсцы, які атрымлівае бел. газэту, *мусіць* мець сваім абавязкам *паведаміць* сваіх суседзяў, *колькі каштуе беларускі календар. Самі-ж беларусы мусяць заняцца і выпісываньнем календароў, каб не пераплачываць непатрэбна розным пасрэднікам.* Ужо пры выпісываньні 10 календароў мы плацім за кожны календар на 10 гр. менш. г. зн. замест 50 грошаў — *40* гр.

Трэба гэта выкарыстаць і выпісываць календары масова. Абавязкам кожнага сьвядомага беларуса ёсьць таксама прапаганда календара. Асабліва гэта датычыць тых вёсак, якія яшчэ або ня ведаюць аб друкаваным беларускім календары, або знаходзяцца далёка ад гарадоў і мястэчак. Ня менш важная прапаганда беларускага календара і сярод мястэчковай інтэлігенцыі, якая звычайна купляе расейскія або польскія календары, думаючы, можа, што яны лепшыя. *Есьць шмат такой інтэлігенцыі, якая лічыць сябе беларускай, а зайдзі ў хату—на сьцяне расейскі календар!* Што-ж гэта за беларус, што мае расейскі календар?

А гляньма на зьмест беларускага календара! Вершы, жарты, гістарычныя весткі, гаспадарчыя практычныя парады, розныя і цікавыя весткі з сьвету, усход і захад сонца,-у календары здаровы зьмест. Мае два стылі: новы і стары, каталіцкія і праваслаўныя сьвяты. Календары-ж расейскія або польскія, якія пушчаюцца на нашыя рынкі, зусім нам чужыя, а часта і бяднейшыя па зьместу.

Памятайма аб гэтым! Выпісвайма і купляйма толькі беларускія адрыўныя календары!

У беларускую хату — беларускі календар!

*Той, што ведае.*

## Нямецкае аружжа для Абісініі

Як паведамляюць францускія газэты, трэцяга дня прыбыў у Джыбуцьці нямецкі параход з амуніцыяй і аружжам для Абісініі. Параход напоўнены кулямётамі і гранатамі. Капітан параходу заявіў, што ў сьлед за ім ідуць другія нямецкія параходы, гружаныя самалётамі і бомбамі.

## Крах франка-савецкага дагавору?

„Бэрлінэр Тагэблят“ паведамляе з Жэнэвы, што Лаваль паставіў не дапусьціць ратыфікацыі франка-савецкага дагавору, тому што ён ня хоча псаваць адносіны з Нямеччынай. Франка-нямецкія-ж адносіны залежаць у далейшым ад адносінаў Францыі да Саветаў

Што датычыць англо-францускіх адносінаў, то Францыя падтрымае ангельскую палітыку у Міжземным моры, бо ў праціўным прыпадку Англія пагражае нейтралітэтам у пытаньні франка-нямецкіх адносінаў, датычачых лініі Рэйна. У сучасны мамэнт гэтае пытаньне для Францыі мае вялікае значэньне, бо апрача рэйнскай справы Францыю непакоіць таксама пазыцыя Італіі. Дзеля гэтага францускі ўрад павінен з абясьпечыць свае інтарэсы на Рэйне, каб мець свабоду дзеяньня на ўсходзе. Гэта і змушае Францыю стварыць добрыя адносіны з Нямеччынай. Што-ж датычыць Англіі, то яе галоўнай мэтай зьяўляецца справа павароту Нямеччыны ў Лігу Нацый.

## З Італа-абісінскага фронту

Італьянскія войскі на поўначы Абісініі пасунуліся на 32 кілёмэтры наперад. Галоўны атрад ген. Сану не дасягнуў Энда-Унзеро (каля 5 кіл. ад Дэбра Сіон). На правым крыле дывізія ген. Біролі знаходзіцца ў некалькіх кілёмэтрах на захадзе ад Гаўзіена. У Гаўзіен увайшлі італьянскія патрулі, але ён яшчэ не заняты італьянскімі войскамі.

——

Паводле вестак з Абісініі, італьянскія перадавыя часьці знаходзяцца цяпер прыблізна ў 20 кілёмэтрах ад Макальле. Калонна ген. Санціні, знаходзячаяся на поўдарозе да Макальле мае ў сваім распараджэньні шмат танкаў. Нечаканыя дажджы перашкаджаюць далейшаму наступленьню італьянцаў. Макальле акружана морам гразьзі. Італьянскія горныя гарматы перавозяцца з вялікім трудом.

Кажуць, што абісінскія войскі, пры спробе перайці раку Сэціт у новым раёне, панясьлі вялікія страты, бо італьянскія войскі ў гэтым раёне добра замацаваліся і пабудавалі кулямётныя гнёзды.

Згодна з заяўленьнем раса Сэйюма, салдаты італьянскіх туземных часьцяў у некалькіх прыпадках перайшлі з аружжам і амуніцыяй на старану абісінцаў.

——

У абісінскім афіцыяльным паведамленьні падчырківаецца, што трэцяга дня італьянскія самалёты ізно ўбомбардавалі Горахі. Забіта 30 жанчын і 15 дзяцей. Шмат раненых.

Абісінскія афіцыяльныя кругі, — як пішуць ангельскія газэты, — заяўляюць, што Горахаі (паўдзённы фронт), ня гледзячы на самалётныя атакі, знаходзіцца ў руках абісінскіх войскаў.

——

Агулам бяручы на італа-абісінскім фронце ў сучасны мамэнт перарваны стратэгічныя дзеяньні італьянскай арміі. Перадышка гэная пратрывае хіба некалькі дзён.

## 750.000 фунтаў штэрлінгаў за перавозку войска праз Суэцкі канал.

Вайна з Абісініяй ужо вельмі дарага каштавала італьянцам.

Газэты падаюць вельмі цікавыя лічбы італьянскіх расходаў, зьвязаных з перавозкаю войска праз Суэцкі канал.

Італьянскае камандаваньне перавозіць свае войскі ў Абісінію на 20 пасажырскіх караблёх розных разьмераў. Побач з гэткімі вялікімі караблямі, як „Сатурнія“ і „Лёмбардыя“, італьянцам служаць для перавозкі войска і параўнальна невялікія караблі, вадазьмяшчэньнем у 1000 тоннаў.

Праход кожнага ваеннага транспарту з поўнаю нагрузкаю праз Суэцкі канал каштуе ад 2 да 3-х тысячаў фунтаў штэрлінгаў (20—30 тысяч рублёў золатам), але караблі, якія перавозяць 4000 і болей людзей, каштуюць італьянцам 9.000 фунтаў штэрлінгаў.

Праезд усіх італьянскіх транспартаў праз Суэцкі канал ужо каштаваў дасюль італьянскаму ўраду 750.000 фунт. штэрл.

# Гаспадарчы аддзел.

### Ужытковая вартасьць некаторых кормаў для жывёлы і спосабы карыстаньня імі паводле найнавейшых досьледаў.

У № 9 і 10 „Przeglądu Hodowlanego“ праф. К. Ружыцкі падае агляд вынікаў зоотэхнічных досьледаў, праведзеных у дасьледчых інстытуцыях. Агляд гэты зьмяшчае ў сабе многа цікавага і новага матэр'ялу, які можна выкарыстаць і ў нашай вясковай гаспадарцы.

*Кармавая вартасьць асыпных расьлінаў для кароў.* Асыпныя расьліны, як кармавыя буракі, карм. морква і бульба маюць у сабе розную колькасьць вады, а дзеля таго, для гаспадара бывае трудным устанавіць, каторая з гэтых гаспадарчых расьлінаў лепшая па сваёй кармавой якасьці, а каторая горшая. Досьледы, праведзеныя над кармавымі буракамі і кармавой морквай, паказалі, што абедзьве гэтыя расьліны маюць для дойнае жывёлы аднолькавую кармавую вартасьць, бо калі каровам замест буракоў давалі моркву, але ў колькасьці меншай якраз на столькі, на сколькі ў моркве меней вады, чым у буракох, то ў кароў ані колькасьць, ані якасьць удою не зьмянілася.

Такія самыя вынікі дала і бульба ў параўнаньні з паўцукравымі буракамі. Адносна абодвух гэтых досьледаў праф. Ружыцкі кажа так: „Вынікі вышэй пададзеных досьледаў поўнасьцю пацьвярджаюць, што ў корме малочных кароў асыпныя расьліны ўзаемна сябе заступаюць у адношаньні да колькасьці сухое масы, гэта знача, што 1 кгр. сухое масы кармавых буракоў можа быць заменены 1 кгр. сухое масы паўцукравых буракоў, кармавое морквы, або бульбы“.

*Бульба, як корм для сьвіней.* Досьледы, праведзеныя над бульбай пры кармленьні ёю сьвіней (прызначаных на бэконы) паказалі, што ў кармавую порцыю бульбы можна ўвясьці да 35% бульбы і, калі яе ўжыць разам з мясною мукою, то тады гэтай мешанінай можна цалком замяніць малако і палавіну зярнят, належачых да кармавое порцыі бэконаў, і ад гэтага ня зьменіцца ані шыбкасьць прыросту, ані добрае выкарыстаньне корму, ані якасьць прадукту.

Пры вельмі вялікіх колькасьцях бульбы, скормліванае разам з адгорчаным лубінам (колькасьць бульбы даходзіла да 63%), аказалася, што ў сьвіней прадоўжваўся час адкорму, гарэй выкарыстоўваўся корм, але затое якасьць атрыманага прадукту зусім не пагоршвалася. Дзеля гэтага праф. Ружыцкі лічыць магчымым у кармавой порцыі малога бэкона палову зярна замяніць 27 працэнтамі бульбы і 6 працэнтамі лубіну разам узятымі, не наражаючыся на горшае выкарыстаньне корму і прадаўжэньне часу адкорму.

Тымчасам замена ўсяе колькасьці зярна 50-ма % бульбы і 11% лубіну, пакідаючы тую самую колькасьць малака, выклікае даўжэйшы час адкорму і горшае выкарыстоўваньне корму. Досьледы яшчэ паказалі, што найбольш можна скарміць бульбы з крывяною мукою. Аказалася, што пры скормліваньні аж 87% бульбы і 13% крывяное мукі якасьць прадукту не пагоршвалася, хаця прадоўжваўся час адкорму і пагаршалася выкарыстоўваньне корму. Пры тых жа спробах, у каторых уся колькасьць малака і палова зярнят былі заменены 50% бульбы і 13% крывяное мукі, ні пад якім поглядам пагоршаньне не заўважвалася.

Адносна апошніх досьледаў праф. Ружыцкі гаворыць наступнае: „Вынікі досьледаў над магчыма большым зужыткаваньнем бульбы паказваюць, што пры кармленьні вялікае значэньне маюць худое малака і зярняты. Ня гледзячы на гэта аднак сьцьверджана, што нават пры вельмі вялікіх порцыях бульбы ў камбінацыі з мукой зьвярынага паходжаньня або з лубінам, можна атрымаць зусім добрыя прадукты, але затое час адкорму прадоўжваецца і гэтым самым пагаршаецца і выкарыстоўваньне корму. Таму той ці іншы спосаб кармленьня залежыць ад кон'юнктуры і тэй ці іншай калькуляцыі. У нармальных варунках ня варта, каб бульба перавышала 50% корму, што адпавядае амаль 6 квінталям бульбы на пэрыяд корму бэкона“.

Апрача досьледаў, мэтаю якіх было даведацца аб уплывах большых колькасьцяў бульбы на адкорм сьвіней, прызначаных на бэконы, былі яшчэ праведзены падобныя досьледы на простых сьвіньнях, кормленых на сала. Карміліся тры групы сьвіней, з каторых адна атрымоўвала ў корме 90% бульбы, другая 73% і трэцяя толькі 59%. Бульба для двух групаў дапаўнялася 10% конскага мяса, а трэцяй—10% мясное мукі. Тая з групаў, якая атрымлівала 73% бульбы, атрымоўвала яшчэ як дапаўненьне 17% ячменю. Групе-ж, атрымоўваючай 59% бульбы, дадавалася 31% ячменю. Рэзультат апошніх досьледаў паказаў, што найлепш выкарыстала корм група, атрымліваючая 73% бульбы. Досьледы гэтыя паказваюць нам, што пры кармленьні старых сьвіней на сала можам скарміць значна большыя колькасьці бульбы, чым пры адкорме маладых парасят на бэконы.

## Камуністы ў Кітаі

У сувязі са спробай забойства кітайскага прэм'ера адбылося сьледства, якое сьцьвярдзіла, што тэрорысты падтрымоўвалі цесную сувязь з цэнтральнай камуністычнай арганізацыяй, а самі тэрорысты належалі да арганізацыі, якая паставіла сабе за мэту ня толькі забіць Чанг-Кай-Шэка, але і зрабіць у Кітаі камуністычны пераварот. Гэтая арганізацыя мае шмат ячеяк у розных гарадох Кітаю. Да яе належала ведамая ў Нанкіне журналістка, якая вучылася ў Саветах у Маскве і вярнуўшысь адтуль заяўляе, што „вылечылася ад камунізму“. Пры вобыску ў журналісткі была знойдзена багатая перапіска з Масквой.



**Пашырайце нашу газэту.**

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.